© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013




*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі! Францішак БАГУШЭВІЧ.*

# НАША СЛОВА

№ 3(13) • 6—12 САКАВІКА • 1991

Штотыднёвік Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны

Кошт 10 кап. (па падпісцы — 5 кап.)

*Алесь ЗВОНАК*

## БЕЛАРУСКІЯ ЖАНЧЫНЫ



Ефрасіння ПОЛАЦКАЯ

*Не гартаў я фаліянтаў пажаўцелыя старонкі,*
*Не шукаў пра вас паданняў,*
*пыл стагоддзяў не страсаў.*
*Чуў я змалку плач ваш горкі,*
*чуў я смех ваш срэбразвонкі,*
*Беларускія жанчыны — неўміручая краса!..*

*Гордасць, пэўна,*
*узялі вы ў Рагвалодавай Рагнеды,*
*Дум ясноту Ефрасіння, пэўна, ў спадчыну дала.*
*Кроў свавольных крывічанак*
*не схіляла вас у бедах,—*
*Пакідалі вы святліцы, бралі ў рукі вы булат.*

*Нёс тэўтонскі крыжаносец на канцы мяча няславу,*
*На зямлю славян-суседзяў ваяўнічы рушыў швед.*
*Адгукайся Яраслаўне голас цвёрды Гарыславы,*
*Клікаў віцязяў у бітве затаптаць варожы след.*

*Крывічоў зямля лясная не скаралася няволі,*
*Хоць не раз іх род нязломны у пабоішчах палёг.*
*Паланянкамі былі вы, а рабынямі — ніколі! —*
*Хоць у гневе неразумным адварочваўся Стрыбог...*

*Вы — пачатак прыгажосці,*
*вы — жыцця першапрычына,*
*Бачу будучыню вашу я ў служэнні хараству.*
*Я цалую вашы рукі, беларускія жанчыны!*
*Я схіляю перад вамі ў знак пашаны галаву!*

*Але! — Але!*

## ЦІ ЗАМЕНІЦЬ ГРАМАДЗЯНСТВА ВІЗІТКА ПАКУПНІКА?

Не сціхаюць спрэчкі пра нядаўнія падзеі ў нашым рэспубліканскім парламенце. Як магло здарыцца, што менавіта напярэдадні ўсесаюзнага апытання насельніцтва (рэферэндуму) беларусы, дзякуючы сваім абраннікам, засталіся без уласнага грамадзянства? Вярхоўны Савет рэспублікі, праўда, спрабаваў, але так і не здолеў прыняць адпаведны закон. Цікава, што прама супраць выказвацца не хацеў ніхто. Разумелі: аўтарытэту такая акцыя ў народзе не прыбавіць. Бо нават у часы, калі энтузіясты спявалі, што іхні адрас не дом і не вуліца, цішком кожны нармальны чалавек марыў займець хоць якую кватэрку з пастаяннай прапіскай, а не пажыццёвы тапчан у бараку чарговай «ударнай» будоўлі Катлавану.

Дык як з грамадзянствам? Як заўважыў дэпутат А. Трусаў, першае «пасведчанне» аб ім беларусы атрымалі...— візітную картку пакупніка. Праўда, нават яе не адважыліся надрукаваць на дзяржаўнай мове. Па звычцы? Або не паступіла адпаведнае распараджэнне з Цэнтра?

І наогул, што адбываецца? — звяртаўся на сесіі да сваіх калег дэпутат Я. Цумараў.— «Адна дзяржава-заснавальніца ААН — СССР у асобе заканадаўчага органа прыняла рашэнне правесці на тэрыторыі другой дзяржавы — заснавальніцы ААН — Беларускай ССР рэферэндум... таму што мы з'яўляемся грамадзянамі СССР. Але мы як жыхары другой дзяржавы, члена і заснавальніцы, таксама павінны мець грамадзянства. З чым мы прыйдзем на рэферэндум без грамадзянства?»

Дэпутат С. Папкоў глядзіць на гэта з эканамічнай пазіцыі: Савет Міністраў рэспублікі выдаў Пастанову аб перадачы дзяржаўнай маёмасці грамадзянам. Дык якім менавіта? Прыняты Закон аб індэксацыі ў сувязі з павышэннем цэн. Дык каму будзе даплочваць рэспубліка са свайго бюджэту, чым грамадзянам? Пытанні і пытанні.

І ў гэтай сітуацыі гучыць прапанова: хоць ён і ўключаны ў парадак дня, законапраект «Аб грамадзянстве БССР» зараз не разглядаць, адкласці на потым...

Чаму раптам? А таму, сказаў народны дэпутат, старшыня Пастаяннай камісіі па заканадаўству М. Слямнёў, што так пажадалі камуністы. «І я мяркую,— дадаў ён,— калі такая шматлікая дэпутацкая група прыйшла да такой думкі, то законапраект у нас не пройдзе».

Дэпутаты пачалі абурацца, і народны абраннік У. Гаркун у сваю чаргу абурыўся: няма чаго, сказаў, бясконца займацца палітыканствам. «Мне не зразумела, чаму мы зноў пачынаем вінаваціць камуністаў?»

У шэрагах дэпутатаў «самай шматлікай групы» мог з-за недасведчанасці адбыцца раскол, таму В. Ціхіня, як адзін з лідэраў і да таго ж сакратар ЦК КПБ — КПСС, вымушаны ўнесці яснасць у пазіцыю: «Давайце,— заклікаў ён,— будзем кіравацца здаровым сэнсам. Грамадзянства — гэта палітычная і прававая прыналежнасць асобы да канкрэтнай дзяржавы. Сёння мы не ведаем, у якой дзяржаве будзем жыць у самы бліжэйшы час...»

«У якой дзяржаве...» Што б гэта магло значыць? Не атрымалі з Цэнтра адпаведнай арыенціроўкі ці як?

Тым не менш у шэрагах «аднадумцаў» адчуваліся хістанні. Цяпер нават кажуць некаторыя: вось каб не выступіў Пазьняк, то можа б...

Дык што ён такога нагаварыў, гэты самы стра-ш-ш-ны апазіцыянер і лідэр апазіцыянераў З. Пазьняк? І ці дайшоў да «самай шматлікай групы» сэнс ім сказанага? Бо даводзілася не аднойчы назіраць: калі дэпутат З. Пазьняк пачынае гаварыць, у большасці прадстаўнікоў ад ветэранскай арганізацыі твары камянеюць, а вочы становяцца падобнымі на прыцэльнае прыстасаванне. Дэпутаты з ліку партфункцыянераў новай фармацыі наадварот — пачынаюць дэманстратыўна пасмейвацца, перамаўляцца паміж сабой. Шмат якія іншыя з начальства ўтаропліваюцца ў газеты, гартаюць іх, нешта вышукваючы. Можна падумаць — перадавіцы з указаннямі, што рабіць з апазіцыянерамі. Цікава, што яны ў гэтыя моманты думаюць? Няўжо сапраўды адключаюць слых, калі ўжо нельга мікрафон? А калі ўсё ж слухаюць, то як? Загадзя вырашыўшы, што зробяць наадварот? Увойдзе ў гісторыю апісаны журналістамі эпізод: Пазьняк паведаміў, што ў Вільнюсе штурмавікі забіваюць бяззбройных людзей і рыхтуюцца звергнуць літоўскі парламент, а ў адказ пачуўся... дружны вясёлы рогат з залы! «Чаму вам так весела?» — крыкнуў нехта з дэпутатаў.

Дык што страшнага сказаў на гэты раз Пазьняк? Што грамадзянства патрэбна ўсім незалежна ад палітычнай арыентацыі, бо інакш ва ўмовах рынку нельга будзе належным чынам сацыяльна абараніць насельніцтва, незалежна ад нацыянальнасці? Што мы дайшлі з-за адсутнасці грамадзянскага суверэнітэту да такога стану, што губляем асноўны сродак культуры, якім з'яўляецца мова? І што калі не адродзім гэты сродак культуры, калі культурна не адродзімся, то не пабудуем ніякіх рыначных узаемаадносін? Бо эканоміка таксама нацыянальная, гэта даказалі японцы і ўсе іншыя.

Не пачулі? Ці пачуў асабіста дэпутат ад ветэранскай арганізацыі І. Ціханаў? І чаму ён тады, сказаўшы з трыбуны, што стаіць «за далейшы росквіт беларускай культуры», што добра было б, «каб нашы ўнукі і праўнукі пачалі гаварыць на беларускай мове з дзіцячага садка, з першых класаў школы», чаму націснуў кнопку супраць прыняцця Закона аб беларускім грамадзянстве?

І ўсё ж: 164 дэпутаты прагаласавалі за тое, каб у першым чытанні праект Закона аб грамадзянстве рэспублікі адобрыць! 164... Для таго, каб прыняць рашэнне, не хапіла 9 галасоў.

А наперадзе рэферэндум, і парламенцкая «агрэсіна-паслухмяная» большасць, як яе называюць, аддала нас на міласць Цэнтру. Як там захочуць, такімі нам і быць. А хочам «людзьмі звацца»!

Кар «Н. с.»

## ШТО, ДЗЕ, КАЛІ

### Беларусы ў Караляўцы

27 студзеня г.г. у месце Каралявец (Калінінград) адбыўся ўстаноўчы сход Беларускага Культурнага Таварыства. Удзельнікі сходу прынялі статут, абралі старшыню і Раду. Трэба адзначыць, што старшыня Таварыства Ігар Шаховіч, нарадзіўшыся ў Караляўцы, беларускую мову і літаратуру ў школе не вывучаў, але самаадукацыяй здабыў такую глыбіню ведаў у розных галінах беларускай культуры, што прысутныя адзінагалосна прызналі яго сваім лідэрам. У гасцях у мясцовых беларусаў былі прадстаўніца ТБМ імя Ф. Скарыны А. В. Кажэра, малады бард Сяржук Лаўнік, фальклорны гурт «Сварожычы», прадстаўнік гародзенскае «Паходні» Ігар Лапеха.

### Вяртанне «Уліса»

Нядаўна з Нямеччыны вярнуўся ці не лепшы беларускі рок-гурт «Уліс». У часе замежнага падарожжа гурт даў некалькі канцэртаў. Пра іх поспех сведчыць той факт, што яны былі камерцыйна выгодныя. Там жа, у Нямеччыне, будзе распаўсюджвацца «Улісава» кружэлка, выпушчаная ў Польшчы.

Нашым жа чытачам ў пошуках магнітафоннага альбома раім звярнуцца: 618213 (Андрусь) — у Мінску: 55202 (Ігар ды Юрай) — у Стоўбцах. Па гэтых жа тэлефонах вы можаце замовіць і іншыя запісы беларускай бардаўскай і рок-музыкі — Данчыка, Сяржука Сокалава-Воюша, Алеся Камоцкага, Вальжыны Цярэшчанка, Андруся Мельнікава, Волькі Акуліч, Уладзіміра Варачаева, «Мроі», «Бонды», «Мясцовага часу», «Уліса».

Ігар МІХНО.

### «Маю гонар»

Так назвалі сваё аб'яднанне мастакі-беларусы, якія жывуць у Балтыі. Свой устаноўчы з'езд яны правялі ў Рызе. На з'ездзе прыняты статут, зацверджаны план далейшай дзейнасці. Старшынёй суполкі абраны мастак Вячаслаў Целеш. Ён паведаміў: «Мастакі-беларусы Балтыі вырашылі свайму аб'яднанню даць назву «Маю гонар» не так сабе. Назва сведчыць пра тое, што мы маем гонар звацца менавіта мастакамі-беларусамі, якім баліць і за нашу родную мову, і за нацыянальную культуру, і за нацыянальнае мастацтва, чаго не хапае яшчэ, на жаль, многім мастакам, якія жывуць на Беларусі».

Сябры суполкі вывучаюць беларускую мову, гісторыю, літаратуру. У іх бліжэйшых планах — арганізацыя мастацкай выставы. Яна спачатку будзе адкрыта ў Рызе, потым пераедзе ў Эстонію, у Вільню, у Ленінград, а таксама ў Мінск. Аказала суполка садзеянне і арганізацыі персанальнай выставы таленавітага мастака-беларуса Валерыя Дзевіскібы, якая цяпер экспануецца ў Рызе, у Доме працаўнікоў латвійскага мастацтва.

Кар. «Н. с.»

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

## ЭКАЛОГІЯ МОВЫ

# УСПАМІН НА РАЗВІТАННЕ

**Даўно не сакрэт, што насельніцтва беларускіх вёсак катастрафічна старэе і, відавочна, калі не зменіцца ў бліжэйшы час сельскагаспадарчая палітыка нашага парламента, калі селянін не стане сапраўдным гаспадаром і не атрымае зямлю ва ўласнасць (вядома, павінна быць ягоным правам — заставацца пры гэтым у калгасе ці стаць фермерам), нас чакаюць сур'ёзныя непрыемнасці. Не сакрэт і тое, што і самі вёскі то тут, то там адыходзяць у нябыт, пакінутыя жыхарамі. Разам з імі знікаюць, забываюцца назвы вёсак, за якімі нярэдка непаўторныя рысачкі матэрыяльнай і духоўнай культуры беларусаў, часцінкі сівой гісторыі краю. Таму заклікаем шаноўных чытачоў: давайце разам хоць на развітанне ўспомнім іх паіменна — няхай адным словам. А можа, хто адшукае і тлумачэнне — чаму населены пункт меў сваю назву? Чаму апусцеў?**

**Распачнём хоць з адыходзячых у нябыт вёсак, што ў Расонскім раёне Віцебскай вобласці, якія адшукаў карэспандэнт БЕЛТА Я. Быкоўскі. Прыгожыя назвы, ці не праўда:**

1. Абітокі
2. Забалацце
3. Ігольніца
4. Купелішча...

## І СМЕХ І ГРЭХ

# Немцы смяюцца

### *Пра гонар Шыльды і страчаную кабылу*

Кажуць, першы жыхар горада Шыльды — шыльдбюргер быў хутчэй за ўсё з Грэцыі. Бо даўней паглядзіш, як разумны — то і грэк. А потым ужо ў Шыльдзе і свае з'явіліся. І не стала на цэлым свеце чалавека, каб розумам з шыльдбюргерам зраўняўся. А ў ранейшы ж час, як ні быў свет вялікі, а разумных людзей было мала — не тое што сёння: каго не сустрэнь, дык кожны скажа, што ён разумны, і нават патрабуе, каб усе яго разумным лічылі.

Дык вось. Неяк адзін шыльдбюргер пачуў, што на нікога не можна накладаць больш, чым той можа панесці. І шыльдбюргер адразу ж падумаў пра бедную сваю кабылу, якой даводзілася вялікія цяжары вазіць. І цяпер, каб хоць крыху аблегчыць конскую долю, ён, беручы мех, заўсёды клаў яго сабе на плечы, а тады ўжо садзіўся. І кабылцы даводзілася везці толькі шыльдбюргера, а мяхі ўжо вёз ён сам, седзячы на каняцы. Такім чынам, развažаў шыльдбюргер, ад яго розуму кабылцы выйшла вялікая палёгка.

Іншыя паны так пра сваю прыслугу не клапоцяцца, не кажучы ўжо аб конях. Наадварот, яны, каб прымелі, усіх сваіх слуг у аслоў перарабілі б, абы толькі на іх што-небудзь цягаць.

Вось аднаго разу ехаў гэты шыльдбюргер на сваёй кабылцы дадому праз поле. І якраз там, дзе праходзіла мяжа між шыльдаўскай і чужою зямлямі, раптам — о, лепш бы яго вочы не глядзелі, а вушы не чулі гэтага! — на чужым баку бачыць: сядзіць на дрэве чужая зязюля і перакукоўвае іх родную, шыльдаўскую, зязюлю на гэтым баку.

Такой няславы для роднага горада шыльдбюргер не мог стрываць. Ён тут жа злез з кабылкі і палез на дрэва, дзе сядзела шыльдаўская зязюля, і пачаў ёй памагаць. Яно ж на свеце так: пакуль звякуеш, не раз і сам закукуеш.

Між тым якраз у гэтую часіну і праз гэтую мясціну прабягаў воўк. Бачыць ён: стаіць кабылка без гаспадара. А шыльдбюргер на дрэве тым часам так налаўчыўся кукаваць, што ваўку і ў цюк не прыйшло, што гаспадар канякі можа быць на дрэве. Воўк напаў на бедную жывёліну... ну і вядома ж, што далей. А калі ўжо даядаў апошні сцягняк, заўважыў угары гаспадара, які сядзеў на суку і птушыным заняткам займаўся.

— Ну то і кукуй сабе,— сказаў воўк, аблізнуўся і пабег у поле.

А шыльдбюргер, шчыруючы, нічога не пачуў і не ўбачыў. Ён быў рад, што чужая зязюля, нарэшце змогшыся, змоўкла, а пасля адляцела.

Усцешаны гаспадар злез з дрэва і тут толькі ўбачыў, што адбылося ўнізе, пакуль ён уверсе перакукоўваў залётнага непрыяцеля.

Шыльдбюргеру нічога не заставалася, як пайсці пяшэчкам з мяшэчкам.

У тае падзеі быў працяг, але гэта ўжо іншым разам...

Па-нямецку пачуў, па-беларуску збаяў Анатоль КЛЫШКА.

## Бывае

### *КУДЫ ПАСТАВІЦЬ?*

Дырэктару аднаго этнаграфічнага музея кажуць:

— Прывезлі дываны на выставу. Пакажыце, калі ласка, дзе пакой, у якім іх размясціць.

Дырэктар чухае патыліцу. Пытаецца:

— А сколькі дзіваноў у вас?

— Сорак.

— О-ей! У музеі столькі месца не будзет, штоб паставіць усе вашыя дзіваны.

## *З лякарні спадара Алеся*

# Гудзеўская медыцына

Кніжка «Гудзеўская медыцына. Том 1» — адмысловая. Выйшла ў Гудзевічах у літаратурна-этнаграфічным музеі. Мае яна наклад пяць паасобнікаў, друкаваная на машынцы. У кніжцы сабраны цікавыя звесткі пра зёлкі, народную медыцыну, спосабы лекавання ад розных хваробаў — тое, што яшчэ не паспела страціць народная памяць. Усё гэта збіралася на працягу дзесяцігоддзяў праз ліставанне з людзьмі з розных куткоў Савецкага Саюза, праз апытанне знаёмцаў, вяскоўцаў. Завадатарам у гэтай справе быў спадар Алесь Белакоз. Пад ягоным кіраўніцтвам збіралі звесткі пра народную медыцыну сотні людзей. Галоўным чынам то былі вучні Гудзеўскай школы. Вялікі ўдзел у стварэнні кніжкі бралі супрацоўнікі Гудзеўскага музею Юрась Новік і Алена Хомка.

Сёння рэдакцыя пачынае друкаваць са згоды Алеся Белакоза найбольш цікавыя месцы з кніжкі.

### АБЛЫСЕННЕ

1. Карані вялікага лопуху (30 %), лісце двухдомнай крапівы (70 %) выкарыстоўваць у выглядзе настою для мыцця галавы.

2. Пры мыцці валасоў уціраць у скуру сок са свежых агуркоў.

3. Мыць галаву крамянёвай вадою. І піць крамянёўку.

### АМАЛОДЖВАННЕ АРГАНІЗМУ

1. Гэты старажытны тыбецкі лекавы сродак запісаны ў адной з будыйскіх святыняў. Запіс знойдзены на гліняных таблічках і расшыфраваны ў 1976 годзе. Перадрукаваў і ахвяраваў Гудзеўскаму музею былы вучань тамтэйшай школы Зміцер Грабавіцкі з горада Ліды.

350 гр. пачышчанага часныку нарэзаць і патаўчы мялкам у фарфоравым посудзе. Сюды ж дадаць 200 гр. 96 % спірту. Посуд шчыльна закрыць і захоўваць у халодным месцы 10 дзён, на 11-ты дзень дастаць з холаду, адкрыць, працадзіць, закрыць і зноў паставіць у холад яшчэ на 2 дні. Піць кроплямі з 50-ю гр. халоднага малака на адзін прыём перад ядою.

Графік прыёму

| Дні | Снеданне | Абед | Вячэра |
|---|---|---|---|
| 1 | 1 | 2 | 3 |
| 2 | 4 | 5 | 6 |
| 3 | 7 | 8 | 9 |
| 4 | 10 | 11 | 12 |
| 5 | 13 | 14 | 15 |
| 6 | 16 | 17 | 18 |
| 7 | 12 | 11 | 10 |
| 8 | 9 | 8 | 7 |
| 9 | 6 | 5 | 4 |
| 10 | 3 | 2 | 1 |
| 11 | 15 | 25 | 25 |
| 12 | 25 | 25 | 25 |

і г. д. па 25 кропель за прыём, пакуль не скончыцца лек. Паўтарыць лячэнне не раней, як праз пяць год.

(Гэты лек таксама вызваляе арганізм ад тлушчавых і вапнавых адкладанняў, паляпшае абмен рэчываў. У выніку гэтага ўсе крывяносныя сасуды робяцца эластычныя, рассмоктваюцца тромбы. Вылечваецца інфаркт міякарда, стэнакардыя, ішэмічная хвароба, хранічны насмарк, танзіліт, хранічныя захворванні лёгкіх, гастрыт, язва страўніка, знікае боль галавы, шум у ёй, рассмоктваюцца вонкавыя і ўнутраныя пухліны, вяртаецца зрок, ліквідуюцца ацёкі.)

### АМАЛОДЖВАННЕ СКУРЫ

1. Масаж з сырога яечнага жаўтка разгладжвае сухую, шурпаватую скуру, знішчае прышчы, маршчыны.

2. Агурочны сок асвяжае скуру, карысна праціраць твар скрылькам агурка.

3. Шклянка малака або кефіру захоўвае свежую, эластычную скуру. Мыйцеся малаком — добры касметычны сродак.

4. 1/2 шклянкі соку з морквы піць штодзённа на ранку. Захоўвае здаровы колер скуры на твары і добрае самапачуванне.

### АБМАРОЖВАННЕ

Цёртай цыбуляю расціраюць абмарожаныя месцы.

### АБМЕН РЭЧЫВАЎ (ПАРУШЭННІ)

1. Адну чайную лыжку шыпшыны сухой растаўчы, заліць 250 мл. моцнага кіпятку ў паліваным посудзе, патрымаць на слабым агні 10 хвілін, настаяць 24 гадзіны (закруціўшы ў цёплую коўдру), працадзіць і дадаць лыжку мёду. Прымаць па адной чайнай лыжцы тры разы на дзень. За 15—20 хвілін перад ядою. Павышае абмен рэчываў, карысны пры знясільванні (пахудзенні), малакроўі, парушэннях тканкавага абмену. Прымаць можна цэлы год.

2. На адну сталовую лыжку індыйскага марскога грыбка (рысу) 0,5 літра халоднай вады, адну вялікую лыжку цукру, 10 ягадзін ізюму (без семя). Усё змясціць у слоік і настойваць тры дні, накрыўшы чыстай ганучкаю, пасля трох дзён працадзіць праз марлю (чатыры столкі) і паставіць у халадзільнік, накрыць анучкай. Затым грыбок прамываецца і нанава настойваецца. Гатовы напой ужываюць па палове шклянкі тры разы на дзень, можна піць як квас. Пачынаць лекаванне з адной вялікай лыжкі і давесці да чатырох лыжак. Грыбок расце, таму яго трэба аддзяляць. Больш трох сутак грыбок не ператрымліваць, бо ён скісне. Піць год, затым зрабіць перапынак на адзін месяц. (Рэцэпт атрыманы з Рыгі з Біялагічнага інстытута.)




*Пасля працяглага перапынку ізноў прыйшло да чытача сатырычнае выданне «Чарнобыльскі Вожык». Добрая беларуская мова, прафесійны ўзровень мастакоў-карыкатурыстаў, радыкальная пазіцыя аўтараў і рэдакцыі — тыя чыннікі, якія вылучаюць газету з шэрагу іншых выданняў.*



Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны арганізуе бясплатныя 2-х месячныя курсы па інтэнсіўнаму авалоданню беларускай мовай. Заняткі кожную сераду ў 18.00. Пачатак у красавіку.

Даведкі па тэл. 33-25-11.

## АБ'ЯВЫ

**Абвяшчаецца конкурс на пасаду выкладчыка беларускай мовы і літаратуры Рыжскай Акадэміі культуры (Рэспубліка Латвія). Акрамя кваліфікацыі па асноўнай спецыяльнасці, прэтэндэнт павінен валодаць навыкамі выкладання асноў гісторыі Беларусі і гісторыі айчыннай культуры.**

**Заняткі пачнуцца з 1 верасня 1991 года, прапіска і жыллё ў г. Рызе прадастаўляюцца.**

**Умовы і вынікі конкурсу вызначаюцца Адукацыйнай камісіяй ТБМ імя Ф. Скарыны.**

**З прапановамі звяртацца па адрасу:**

**220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13, Рэспубліканская Рада ТБМ імя Францішка Скарыны.**

◆◆◆

Суполка ТБМ імя Францішка Скарыны запрашае ўсіх, хто пажадае, на курсы па вывучэнню беларускай мовы. Заняткі праводзяцца бясплатна. Звяртайцеся, калі ласка, па тэлефонах:

66-82-30 (Юрась)
57-48-69 (Валеры)
г. Менск.

Паважаныя чытачы. Рэдакцыю «Нашага слова» цікавяць вашыя погляды на змястоўнасць газеты. Заўвагі, прапановы, парады дасылайце на адрас «Нашага слова».

◆◆◆

### ДА СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БЕЛАРУСІ

Дарагія беларусы ўсіх краёў! Без вашых допісаў «Наша слова» не здолее расказаць пра тое, чым жывяце вы далёка ад роднай Беларусі. Без нашай газеты вы не даведаецеся шмат чаго пра адраджэнне на Бацькаўшчыне.

Просім адгукнуцца ўсіх тых, хто хацеў бы сёлета атрымліваць «Наша слова», а таксама дасылаць нам артыкулы, інфармацыю, фотаздымкі.

**Рэдакцыя «Нашага слова».**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:**

**Рэдактар Эрнэст Ялугін.**
**Сябры калегіі: Янка Брыль, Ніл Гілевіч, Уладзімір Дамашэвіч, Алесь Камароўскі, Анатоль Клышка, Ігар Лапцёнак, Генадзь Мацур, Зьміцер Санько, Мікола Супрановіч, Алесь Траяноўскі, Генадзь Тумаш, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун.**

**Наш адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13.**
**Тэлефон рэдакцыі 33-25-11.**

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі.

Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

МВПА імя Якуба Коласа.
Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».
Наклад 8 000 паасобнікаў. Заказ 2432. Індэкс 74975.

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013